№ 10 (126). Вільня, 25 Красавіка 1938 г. Год X.

# Шлях Моладзі
# Šlach Moładzi

ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ



## Сучасныя ідэолёгічныя кірункі сярод моладзі

Ня так яшчэ даўно найбольш цікавым пытаньнем сярод думаючае моладзі быў камунізм*). Новы гэты палітычны і грамадзкі кірунак, як ведама, імкнецца скасаваць усе сацыяльныя клясы, зраўняць усіх людзей і зьмяніць сучасны лад шляхам рэвалюцыі. Камунізм адкідае прыватную ўласнасьць, галоўнай-жа асновай жыцьця ўважае супольнасьць маемасьці і працы і супольнасьць спажыцьця вытвараных супольнай працай прадуктаў. Адначасна камунізм адкідае ўсякую рэлігію і сямейнае жыцьцё ў дасюлешнім разуменьні, даючы свабоду мужчыне і жанчыне ня толькі ў зыходжаньні (жаніцьбе), але і ў разыходжаньні (разводах). Вялікую пры тым увагу зварочваюць камуністы на ўзгадаваньне моладзі ў духу матарыялістычным, бяручы апеку над ёй у свае рукі, а адсоўваючы ўплывы сям'і, бацькоў. Тэорэтычна ў камунізьме адкідаецца ўсякі нацыяналізм**), дазваляецца аднак кожнаму народу разьвіваць сваё жыцьцё ў рамах свае нацыянальнае культуры, але толькі паводле формы, а не паводле зьместу.

Такі камуністычны сьветапагляд шмат каму падабаўся і шмат хто думаў аб яго рэалізацыі, прыглядаючыся да жыцьця ў б. царскай Расейскай імпэрыі, дзе пасьля рэвалюцыі 1917 г. камуністы ўзялі ўладу ў свае рукі, стварылі вялікі Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і пачалі сілай ўводзіць камунізм у жыцьцё. Адразу ўсё йшло тут туга, але на апраўданьне былі словы: „гэта пачаткі". Тымчасам, „чым далей у лес, тым болей дрэваў". І на колькі нам ведама, камуністы ў СССР ня толькі ня вырашылі праблемаў эканамічных, клясавых, нацыянальных і культурных так, каб з гэтага былі задаволены жыхары, але стварылі такія цяжкія жыцьцёвыя абставіны, што кожны, хто можа, пратэстуе супроць іх. — Праўда, зьністожылі яны клясу буржуяў, але нарасла новая вышэйшая, упрывільяваная кляса камуністычных камісараў і агулам камуністаў, каторыя, будучы ў меншасьці, ня лічацца з большасьцю некамуністаў (бэзпартыйных), а як дыктатары, маючы аружную сілу, робяць тое, што хочуць. Калектыўныя гаспадаркі — калгасы, бюракрацыя заводзяць эканамічнае жыцьцё ў тупік; не памагаюць у гэтым і бязканечныя зьмены і „чысткі". Замест рэлігіі сілай уводзіцца бязбожніцтва. Нацыянальнае питаньне зводзіцца да таго, што ўсё расейскае гэта корань, а іншыя нацыянальнасьці толькі водрасьлі. А знача „все ручьи сольются в русском море". І ўжо і на Беларусі і на Украіне і ў інш. нерасейскіх савецкіх рэспубліках у школах існуе абавязкавае навучаньне расейскае мовы. Нацыянальныя-ж адраджэнскія імкненьні Беларусаў, Украінцаў і інш. прасьледуюцца. Словам, варочаюцца царска-расейскія часы.

Гэткія праявы і весткі аб іх робяць камунізм непапулярным. Затое шырыцца папулярнасьць фашызму*) розных колераў, якія сваей тактыкай, падыходам, спосабамі вельмі падобныя да камунізму, аднак найбольш яму варожыя.

Фашысты, падобна як і камуністы, заводзяць свае парадкі шляхам дыктатуры і фізычнае сілы. Яны проціў поўнае свабоды чалавека-адзінкі; на першы-ж плян высунуты ў іх кліч: „Усё для гаспадарства і для народу". Гэта-ж вядзе да таталізму**), г. зн. да такога палітычнага рэжыму, калі гаспадаром усяго ёсьць гаспадарства — нават асабістае волі, думкі, веры і шчасьця чалавека. Пры тым кожны фашыст свой народ, сваю нацыю ўважае найбольш вартаснай, вялікай і слаўнай; іншыя-ж, асабліва слабейшыя, нацыі стараецца ён здушыць сілай, асыміляваць і падпарадкаваць свайму самалюбству і выгодзе. Для фашыстаў найлепшай меркай вартасьці народаў ёсьць фізычная сіла. Ясна, што такі сьветапагляд, такая ідэолёгія разбуджае ў людзей нездаровыя зьвярыныя апэтыты да вечнае барацьбы і вядзе да нявольніцтва.

З матарыялістычнымі кірункамі камунізму і фашызму, якія вядуць жыцьцё ў паганства і агранічаюць волю чалавека, змагаецца перадусім хрысьціянства і дэмакрацыя.

**Я. Н.**

(Далейшы цяг і заканчэньне будзе ў наступным нумары).

---

*) Слова камунізм выводзіцца ад лацінскага „коммуніс", што значыць супольны.

**) Слова „нацыяналізм" выводзіцца ад лац. слова „нацio" — народ.

*) Сл. „фашызм" паходзіць ад італіянскага сл. „фасці", што зн. гурткі, саюзы. З гэтых гурткоў паўстала нацыяналістычная італіянская партыя Мусолініга, якая ў 1922 г. заўладала ў Італіі.

**) Таталізм выводзіцца ад лацінскага слова „тотус" — увесь.

## ВЯЛІКІ ЮБІЛЕЙ

*(950-лецьце хрысьціянства сярод усходніх славян).*

Хрысьціянская эра сярод усходніх славян пачынаецца ад 988 году, калі кіеўскі князь Уладзімір Вялікі сам прыняў хрысьціянства і паклікаў прапаведнікаў навучаць эванэлічнай Праўды ды хрысьцiць падуладны яму народ. З Кіеўскага княства хрысьціянства абняло ўсіх усходніх славян: Украінцаў, Беларусаў і Вялікарусаў.

Значыць у 1938 годзе мінае 950 гадоў, як усходнія славяне пазналі сьвятло Хрыстовае навукі. Дзеля гэтага сёлета адбудуцца ва ўсім нашым Краі, а таксама і на Украіне, адпаведныя ўрачыстасьці прысьвячаныя гэтаму вялікаму юбілею. Гэтыя ўрачыстасьці, спадзяёмся, будуць арганізаваць і ладзіць ня толькі царкоўнікі — духавенства і міране — але і сьвецкія людзі — культурна-асьветныя і грамадзка-палітычныя групы. Бо гэты юбілей, як і агулам хрысьціянства, што прынесла народам культуру і іх уцывілізавала — мае вялікае значэньне ня толькі рэлігійна-царкоўнае, але так-жа грамадзка-народнае і нават міжнароднае.

Да прыняцьця хрысьціянства продкі нашыя вызнавалі паганскую веру — за багоў уважалі яны сілы прыроды. Найважнейшым богам быў бог грому і маланкаў які зваўся Пяруном. Сонца так-жа ўважалі за бога і называлі яго Дажбогам— г. зн. бог, што дае. Апрача таго было шмат меншых бажкоў.

Хрысьціянства прынялі нашыя продкі не раптоўна, а паступова. Хрысьціянства пранікала ў славянскія плямёны яшчэ і прад 988 годам. Пры тым цікава, што славянскія плямёны, будучы йшчэ паганамі, верылі ў несьмяротнасьць душы.

Прасьветная і агулам культурная роля хрысьціянства на славянскім усходзе ў гісторыі Эўропы — бясспрэчная. Культурнага значэньня хрысьціянства не змаглі запярэчыць нават бальшавікі, якія прызналі сваей „навукай," што ў гісторыі культурнага разьвіцьця славянскіх плямёнаў 988 год пачынае новую цывілізацыйную эру, пачатую прыняцьцем хрысьціянства гэтымі плямёнамі.

*М. Астапчык.*

## *Хрыстос ускрос!*

*Шэпча вецер з над палянаў,*
*вестку добрую прынёс,*
*усхвалёўвае сялянаў —*
*„Хрыстос ускрос,*
*Хрыстос ускрос!"*

*Ратая спаткаў на полі,*
*як цягнуўся той з палос —*
*„Кідай думку кепскай долі!*
*Хрыстос ускрос,*
*Хрыстос ускрос!"*

*І пайшоў па усей старонцы*
*гэтай песьні адгалос,*
*запяялі аж ваконцы—*
*„Хрыстос ускрос,*
*Хрыстос ускрос!"*

*Цябе віншую, Краю мілы:*
*каб палепшыўся твой лёс,*
*каб набраў ты новай сілы—*
*бо й табе*
*„Хрыстос ускрос!"*

ЯНКА НАРЦЫЗ

*Грамадзяне! Памятайце аб бел. моладзі і прысылайце ахвяры на дапамаговы фонд беларускай вучнёўскай незаможнай а здольнай моладзі на адрыс: Red. „Šlachu Moładzi" — Wilno, Zavalnaja 1.*

Жалейка

## СУДЗЬБА 2)

II.

Ясныя вочы маладога хлапца, спавітыя туманом дзіўных думак, глядзелі бязупынна праз вокны вагону, на мігаючыя бела-сьнежныя палі. Дзесь на ўсходзе разгаралася сонца і белыя прасторы строіла золатам. На хвоях іскрыўся брылянтавы сьнег, гарэлі полымем шыбы хатаў. Залатыя сонечныя касулькі ўпутваліся ў шэры дым з комінаў, што цудоўнаю хмараю плыў ціха ўвыш, быццам раньняя малітва саламяных стрэх.

— Што за краса зімовай мёртвай зямлі — думаў Казюк Верас — і захопленым зрокам абыймаў белыя, сьнегам накрытыя хаты, каторыя выглядалі, быццам зьявы з чароўнай байкі. А, вось ужо і знаёмыя ваколіцы, вёска найбагацейшая: Басакі. Хаты вялікія, прыгожыя, крытыя дранкай (гонтамі), глядзелі на дарогу вялікімі вачыма сініх вакон. А там, прытуліўшыся да лесу, вёсачка ўбогая... Як начныя зоркі, блішчэлі замарожаныя ваконцы з пад нізкіх саламяных стрэх. Што за слаўная моладзь там жыве!

Дзяўчаты прыгожыя, удалыя, працавітыя. Ня мае на іх уплыву нездаровая культура места. Быццам кветкі родных ніў, чаруюць яны вока й сэрца румяным ад сонца тварам, абмытым веснавым дажджом. Хлапцы бойкія, шчырыя, за праўду гатовы жыцьцё аддаць. Казюк знае ўсіх: моладзь культурная, сьведамая нацыянальна, шчырыя беларусы, прыклад добры ўсей ваколіцы. Цесна ім тут на гэтым малым куску зямлі. Старыя бацькі дрыжачымі рукамі з сьлязьмі дзеляць між сыноў свой кусок зямлі на малыя кусочкі... і межы растуць, быццам магілкі людзкіх надзеяў. Сільныя рукі моладзі ападаюць у гэтай барацьбе і сумам зацягваюцца быстрыя сакаліныя вочы. Любоў зямлі аднак ёсьць нявыказаная. Чарнеюць рукі, гнуцца плечы, а яны, з верай у лепшае заўтра, вытрывала працуюць у гарачай сьпякоце лета, аж да познага халоднага месяца.— Сумныя думкі ўпіваліся ў сэрца Казюка, але адначасна моцна ён верыў, што моладзь беларуская асягне свае вялікія ідэалы, што зьдзейсьняцца залатыя мрыі аб шчасьці, шырэйшым загоне, аб лепшай долі Беларускага Народу... Дарагія палі, нівы вузкія сьнілі ціха пад сьнегам аб вясьне...

Вось ужо і родная вёска, ціхая прыстань змучанай душы. Ніхто цяпер з каханай хаты ня выйдзе яму на спатканьне.

Так нядаўна яшчэ маці прыбягала на станцыю да цягніка, каб яго найхутчэй пабачыць. Прыціскаў вусны да ейных дарагіх, спаленых сонцам, змарожаных марозам, змучаных рук. Ейныя вочы сьмяяліся вясной, а салодкія словы калыхалі сэрца. Сяньня ён астаўся сам адзін.

Адчыніліся дзьверы цягніка, Казюк хутка выскачыў і сьціраваўся да шнура фурманак. А

# ФІНЛЯНДЫЯ

Фінляндыя — пафінску называецца Суомі; суо — знача возера, а мі—зямля. Вось Фінляндыя — гэта „зямля вазёр." Прыгожая гэта краіна далёкай поўначы, дзе побач з вазёрамі характэрызуюць яе скалістыя разлогі, адкуль паходзіць слаўны фінляндзкі граніт. Фінляндыя расположана на 388.576 кв. кілём.— менш-больш раўняецца з Польшчай. Большая часьць Фінляндыі, бо 57 прац. усяе плошчы, пакрыта лесам.

Граніт, вазёры, лясы — гэта элемэнты характару гэнае краіны, якія твораць яе суровую геройскую красу.

Фінляндцы — жыхары Фінляндыі — паходзяць з уральска-алтайскіх вандроўных плямёнаў, пасваячаных з мардвінамі, чарамісамі і інш., прабываючымі і дасюль каля Волгі ў Расеі. Фінляндцы высокага росту і крэпкае будовы цела, русыя, з сінімі або сіне-зялёнымі вачыма. Гэткія вочы паэты называюць — добрымі вачыма.

Гісторыя зьвязала фінляндцаў з скандынаўскімі народамі. Ад 12 да 18 стагодзьдзя былі яны пад Швэцыяй, а пасьля расейска-швэдзкіх войнаў у 18 стагодзьдзі падпарадкаваны былі Расейскай імпэрыі, дзе мелі аўтаномію, якую пратрымалі да апошніх часоў — да вялікае расейскае рэвалюцыі.

Пад Швэцыяй фінляндцы былі загубіўшы сваю мову і народную культуру. Народнае адраджэньне пачалося ў іх на пачатку 19 ст. Падставай нацыянальнага адраджэньня фінляндцаў была іхняя народная паэзія, асабліва стары эпос „Калевала." На гэтых асновах паўстала магутная культура адроджанага фінляндзкага сялянскага народу.

Падчас расейскае рэвалюцыі Фінляндыя абвесьціла сваю незалежнасьць. У 1920 г. Фінляндыя адракласе Карэліі за замену вузкай паласы, якая злучае краіну з Паўночным Акіянам.

Цяпер Фінляндыя зусім незалежнае гаспадарства.

Гаспадарская структура Фінляндыі —земляробская: 80 прац. насельніцтва жыве там з земляробства (разам з лесаводзтвам). Зямлі здатнай для земляробства там мала—толькі дзесятая частка цэлае плошчы, а рэшта — вада, лясы, скалы і няўжыткі. Зіма там трывае 6 месяцаў. Фінляндзкі клімат дае разьвівацца расьліне вельмі скора: ячмень і авёс вырастаюць, дасьпяваюць за 13 тыдняў.

Промысел фінляндзкі пачаў разьвівацца ў канцы 19 ст. Галоўныя яго галіны — дзераўляны і паперавы. Цяпер даволі шырака разьвіта ўжо ў Фінляндыі коопэрацыя, якая нарадзілася там у найцяжэйшыя для фінляндцаў часы, калі Расея наймацней станавілася на ўзбярэжжы Ціхага акіяну.

Фінляндцаў налічаюць ня поўных 4 мільёны. Прайшлі яны жорсткую школу жыцьця і стварылі сваё асобнае, культурнае і радаснае жыцьцё.

Скарбніца агульна людзкае культуры выказвае і ня мала йшчэ выкажа пазыцыяў прыбытку з краіны „Суомі," бо фінляндцы — гэта народ з гарачым сэрцам, які ўмее захопліваца вялікімі грамадзкімі ідэямі і ўмее іх праводзіць у жыцьцё. **Г. К. Ч.**



---

можа хтось ад дзядзькі прыехаў? Не пасьпеў аднак разглядзецца, як пачуў голас:

— Казюк, Казюк, Казюк!.

Казюк стаў і адвярнуўся. Прад ім стаяла маладая незнаёмая, высокая дзяўчына. З пад разьвеяных ветрам залатых валасоў глядзелі зьдзіўленыя і спалоханыя цёмна сінія вочы.

— Выбачайце... памылка, гэтым цягнікам меўся прыехаць у госьці мой сваяк з Вільні і я вас узяла за яго.

Казюк зьняў шапку і глянуў дзяўчыне глыбака ў вочы.

— А я вам вельмі дзякую за гэта прывітаньне, бо якраз няма каму мяне спатыкаць... Што да асобы, дык вы памыліліся, але што да імя дык не. Пазвольце, і выбачайце, што вам прадстаўлюся: называюся Казюк Верас...

У гэту хвіліну пацягнуў хтось Казюка за пальто. Быў гэта дзядзькаў Міхась, які прыехаў адвязьці яго да хаты.

— А можа нам адна дарога — зьвярнуўся Казюк да дзяўчыны, каторая зьмяшаным і зацікаўленым зрокам глядзела на яго.

— Не, мне недалёка, вось мая хата — паказала рукой на недалёкі на ўзгорку пад лесам прыгожы дом.

—Бывайце! — Усьміхнулася да яго і хутка пайшла, кіруючыся на дарогу высаджаную бярозамі.

— Да пабачаньня! — адказаў ёй Казюк і ўскочыўшы на санкі хутка аддаляўся ў ціхую нязьмераную бель.

Зажмурыў вочы. Прад ім аднак стаяла прыгожая постаць дзяўчыны. Здавалася яму, што ўжо калісь бачыў ейныя, быццам мора глыбокія, поўныя зацікаўленьня і жыцьця вочы і гэтыя залатыя валасы. На ўспамін прыйшоў яму верасьнёвы вечар, пачуў над сабой жаласны крык жораваў... Гэта яна, тая дзяўчына, што капаючы бульбу на разьвітаньне сказала яму: „Усяго добрага!" Тады, як ехаў на станцыю, у школу. Шчасьлівыя былі гэтыя словы, так, сапраўды ўсё пайшло добра, і каб маці жыла быў-бы шчасьлівы.

Якой судзьбой сяньня гэта дзяўчына так нязвычайна яго прывітала, думаў сабе...

— Міхась, мо' знаеш гэту паненку, з каторай я гаварыў?

Міхась зарагатаў сьмехам, што аж коні спалохаліся і хутчэй пабеглі.

— Вось табе маеш, фліртаваў з дзяўчынай і ня знае яе. Я думаў, што вы ўжо даўно знаецеся. Гэта-ж Ганка Лістоўская з Залесься. Усе хлапцы за ёй роем ходзяць, бо прыгожая, але яна мусіць нейкага князя чакае, бо з нашых хлапцоў нікога ня хоча.

Ганка... нікога ня хоча... задумаўся Казюк, а ў вушох, зьмешаныя з голасам званочкаў, званілі яму салодкія словы: Казюк, Казюк, Казюк... Сэрца-ж неяк тужліва і неспакойна жалілася на ўспамін разьвітаньня: Бывайце, бывайце, бывайце!..

*(д. б.)*

* * *

*Прысьвячаю С.*

*А ўсё-ж спаткаемся з Табой,*
*з Табой, нязнаная дзяўчына,*
*і станем цьвёрдаю стапой*
*жыцьця на новых каляінах...*

*Адгонім сум і гора прэч,*
*запалім сьветач новай веры*
*і пойдзем шчасьцю насустрэч*
*праз вір жыцьця таёмны, шэры...*

*І новы гарт душы скуём,*
*ажывім думкі замадзелы*
*і гімн змаганьню запяём...*

. . . . . . . . . . . . .

*Тады забудзем лёс благі —*
*нам шчасьце буйна зарунее.*
*І зажывём мы бяз тугі*
*аднэй сагрэтыя ідэяй...*

*Дык-жа спаткаю я цябе,*
*Цябе, нязнаная дзяўчына.*
*З Табой у шчасьці і ў бядзе*
*пайду аднэю каляінай...*

*АЛЕСЬ МІЛЮЦЬ*

* * *

*Ažvajuć les i pole:*
*zašumieli, začvili...*
*a ŭ sadočku na pryvolle*
*z vullaŭ pčołki zaḫuli.*
*I piajuć:*
*— pryḫreje sonca —*
*raspuščacca vierby stanuć;*
*zabialejuć višni, ḫrušy;*
*a na łuzie kvietki ḫlanuć;*
*i praz lotku, praz vakonca*
*my, ḫullivaj čaradoju,*
*za viasnoju maładoju*
*z pieśniami da pracy rušym...*
*Budź razumny i acḫviarny:*
*daj nam doḫladu, spakoju --*
*cḫutka źlubimsia z taboju,*
*pracavać ciabie navučym,*
*źnimieš z sotaŭ miod pacḫuču —*
*i papraviš los svoj marny...*

*Janka Bryl.*



Ідзе, вясна, ідзе... палямі, лясамі, дарогамі!..

# M. Vańkovič ab našym Kraju

Viedamy polski piśmieńnik Melchijor Vańkovič 6.IV sioleta ŭ Sajuzie Polskich piśmieńnikaŭ u Vilni pračytaŭ cikavy reportaž-dakład, źmiestam jakoha byli ŭražańni z padarožy pa našym Kraju— pierad usim pa Vilenščynie i Navahradčynie, — katoruju piśmieńnik adbyŭ aŭtamabilem. Dziela asiahnieńnia vobraznaści i kankretnaści reportažu, a tak-ža cikavaści i ŭražańnia ŭ słuchača, dakład byŭ „padmacavany" pavialičanymi naśvietlenymi, vykananymi duža artystyčna samym aŭtoram, fatahrafijami — źnimkami. Faktyčna reportaž byŭ nia čym inšym, jak tłumačeńniem taho, što pakazana na źnimkach.

Iz ahulnaha liku sotni źnimkaŭ, na mnohich piśmieńnik pradstaviŭ charastvo pryrody našaha Kraju, hetaj zamknutaj ad uschodu muram polska-balšavickaj hranicy, a ad poŭnačy takim-ža muram hranicy polska-litoŭskaj častki terytoryi kališ mahutnaha i słaŭnaha Vialikaha Kniastva Litoŭska-Biełaruskaha, jakaja siańnia z usiakaha hledzišča apynułasia ŭ tupiku; na inšych z hetych źnimkaŭ pakazaŭ kulturu i byt miascovaha nasielnictva— „ludu białoruskiego".—Piśmieńnik padyjšoŭ da źjavaŭ žyćcia pieravažna z hledzišča zainteresavańniaŭ ludaznaŭcy. Cely čarod pakazanych źnimkaŭ sapraŭdy z hetaha hledzišča vielmi cikavyja i vartasnyja. Ahułam-ža padadzienyja i ahavoranyja ŭ reportažy fak-

Dr. Jadviha i Stanisłaŭ Hrynkievičy

6)

# Umovy i zahady nieabchodnyja dla zdaroŭja

## Zuby i hygijena rotavaje paražni

**Zubam** zaviom my tolki adnu jahonuju častku — karonku. Aprača karonki zub maje jšče korań, jaki siadzić pad dziasnaj u škivicy. Materyja, z jakoj pabudavany zub, nadta ćviordaja, macniejšaja na't za kość. Na karoncy zub pakryty zułnoj polivaj (emalija). Henaja poliva, choć i nadta mocnaja, moža psavacca, što prajaŭlajecca ŭ treskańni jaje. Poliva treskajecca ad chutkaj źmieny haračaje j chałodnaje stravy, treskajecca, kali niechta kałupajecca ŭ zubach hołkaju, šyłam ci inšym ćviordym hastryjom.

Najčaściej adnak poliva treskajecca ad prysutnaści ŭ rotavaj paražni *kiślaŭ*. Skul tyja kiśli ŭ rocie? Majem ich šmat u stravach, prypomnim tolki ab kisłych hurkoch, kapuście, jabłykach i h. d. Henaja kiśla nam ničym nie pahražaje. Jana tolki prachodzić praz rotavaju paražniu, a inšaja ježa, jakuju adnačasna jamo (chleb, bulba, miasa) bycсam ačyščaje mechanična zuby. Niebiaśpiečnaja inšaja kiśla, jakaja taksama prychodzić z ježaju, a heta voš jak: pamiž zubami astajucca kroški chleba ci drobnyja čaścinki bulby, miasa ci niejkaje inšaje stravy. Kali nie prapałaskać jak śled rotu pa jadzie, dyk strava taja pačynaje „kisnuć". Kiśnie mo' nia tak jak małako, ci hurki, bo inšyja bakteryi spryčyniajucca tutaka da kisłacieńnia. Akančalna pamiž zubami amal nie zaŭsiody kiśla budzie raščyniać polivu i taja treskajecca. Bakteryjam taho tolki i treba. Ułaziać jany ŭ tyja ščylinki i chutka tam moža być duplo. Pakul duplo nie dachodzić da zubnoje miazdry, što lažyć u zubie hłybiej, my ničoha ab chvarobie zuba nia viedajem. Heta ŭžo daloki etap chvaroby zuba, kali jon pačynaje baleć. Heta najpaźniejšaja para, kali možna jšče adratavać zub, a časta adratujem jaho ŭžo kalekaha. Pierad tym jak zaplambavać, zubny lekar vykinie zubnuju miazdru, zubam možna jšče karystacca. Jon adnak užo bolš nia žyvie, nia maje nervu. Inšaja sprava, kali chutka pačać lekavać chvory zub, pakul jon jašče nie balić. Tady i lekavańnie prostaje, biaz nijakaje boli i chutkaje.

Časta možna pačuć, što toj maje błahija zuby, chto jeść šmat cukierkaŭ ci ahułam sałodkaściaŭ. Jano słušna adčaści dy nia zusim. Ad cukierkaŭ zuby roŭna psujucca jak i ad chleba. Tolki chleba zaŭsiody mienš astajecca pamiž zubami i jon

ty śćviardžajuć, što miascovaje biełaruskaje nasielnictva znachodzicca ŭ žudasnym sanitarnym stanie, u ciemry i zababonnaści, što siarod hetaha nasielnictva, u pravasłaŭnaj častcy misija polskaha katalictva i ruskaha pravasłaŭja — nie daje pažadanych rezultataŭ, — nasielnictva, šukajučy praŭdy relihijnaj,časta idzie ŭ sekty.

M. Vańkovič pavodle socyjalnaj prynaležnaści abšarnik. Z sentymentam i ciaplinioj havaryŭ ab panoch z dvaroŭ i falvarkaŭ. Jaho zdajecca ahartaje žal, što na jahonych vačoch hinie abšarnicki panski śviet. U vyrašeńni prablemy socyjalnaj, mima śćvierdžańnia, što biełaruskaje sialanstva žadaje „upełnorolnienia“, Vańkovič, zdajecca, žadaŭ-by, kab miž polskim abšarnikam i biełaruskim sielaninam panavała „idylla“, kab pan-abšarnik byŭ zaŭsiody panam, a sielanin viečnym jaho słuhoj. — U palityčnych adnosinach Vańkovič pradstaviŭsia staronnikam zamacavańnia i pašyreńnia taho stanu, jaki isnuje... Jaho pierakonyvaje pahlad, vykazany karalom Batorym adnosna biełaruskaj ziamli: toj maje da jaje pravy, chto joju zaŭładaje.

Reportaž pračytany cikava, žyva, časami anekdotyčna. Da zahanaŭ jaho treba zaličyć toje, što aŭtar havoračy ab biełaruskim ludzie (nie narodzie!), amal zusim nia ŭspomniŭ ab śviedamym hramadzkim i nacyjanalna-kulturnym žyćci hetaha ludu. A razjaždžajučy siarod biełarusaŭ, Vańkovič nia moh nie zaŭvažyć hetaha śviedama biełaruskaha žyćcia. Urešcie šmat ab im mahli-b piśmienniku raskazać pany starasty i ich referenty, choć-by tyja, z jakimi jon spatykaŭsia!.. Praŭda, piśmieńnik uspomniŭ i pradstaviŭ na źnimkach niekatoryja prajavy śviedamaj biełaruščyny: z repartažu słuchačy daviedalisia i pabačyli, jak u hłuchim kutku Dziśnienščyny biełaruski sielanin navučaje (nielehalnym sposabam!) svajho syna biełaruskaha nacyjanalnaha katechizmu; — jak naš paet Michaś Mašara, budučy ŭ lichich mataryjalnych varunkach žyćcia, liryčna apiavaje Biełaruś i jaje imknieńni, jak inšy biełaruski sialanski syn Kryviec (z Vialejščyny) ŭ nočy, kab nia bačyła palicyja, pastaviŭ pamiatnik u česć Maršała Piłsudskaha, z biełaruskim napisam i iz słovami Piłsudskaha: „Za našu i vašu volnaść“. — Voś i ŭsio. Hetaha mała!

Adznačyć treba pryjemny na viečaru dadatak: padčas pierapyvu słuchačy pačuli z hramafonnych plitak niekatoryja biełaruskija pieśni ŭ vykanańni našaha słaŭnaha śpievaka M. Zabejdy-Sumickaha.

J—ič.

### Na dapamahovy fond biełaruskaj moładzi pry „Śl. Mł.“

*achviaravali:*

Ks. V. Šutovič — 2.50 zł., Ks. J. Siemaškievič — 2 zł., J. Jarmałkovič — 50 hr., B. Brojko — 2 zł., Al. Vajba — 1 zł.,

Usim achviaradaŭcam ščyra dziakujem.

**Red. Kal. „Slachu Moładzi“**

nia tak chutka raskładajecca, h. zn. z jaho nia tak chutka robicca kiśla. Toj chto rupicca ab čyściniu zuboŭ, moža ješči cukierki ci što inšaje i miecimie zdarovyja zuby.

Što-ž treba *rabić,* kab mieć zdarovyja zuby?

Kab trymać u čyścini zuby, treba kab była čystaja rotavaja paražnia. Najlahčej heta dasiahnuć *pałoščačy* rot jaknajčaściej, a prynamsia paśla kožnaje jady. Samoha tolki pałaskańnia adnak mała. Ruplivy ab svajo zdaroŭje čałaviek pavinien *čyścić* zuby. Da čyščeńnia treba vady, adumysłovuju ščotku i taje ci inšaje masy. Najbolš raspaŭsiudžanym i najtaniejšaju budzie „parašok da zuboŭ“. Parašok heny robicca z dobra paciortaje krejdy, da jakoje dziela pryjemnaha pachu dajuć najčaściej mentolu, miaty. Možna samomu zrabić parašok z krejdy, nia treba tolki zabyvacca, kab jaje jak śled raścierci, pierasiejać na drobnieńkim rešacie. Robiać parašok z dreŭnaha vuhla. Možna i im karystacca, pomniačy ab zaściarozie, kab vuhal byŭ dobra raścierty.

Chitraść zdajecca nie vialikaja vyčyścić zuby, majučy ščotku i parašok, a nia kožny zrobić heta dobra. Kiepska čyściačy možna papsavać zubnuju polivu. Pierad čyščeńniem treba dobra vypałaskać rot. Potym mokraju ščotkaju nabrać parašku, ścisnuć zuby i šaravać ich ščotkaju źvierchu ŭniz. Vyčyściŭšy hetak piaredniuju staranu zuboŭ, treba toje samaje zrabić z zadniaju staranoju. Tutaka ščotku trymacimiem nia stočna da płaščani zuboŭ, a krychu adkosna, źvierchu ŭniz. Adnačasna lohka vycirajem dziasnu i płaščyniu jazyka. Vyniaŭšy ščotku z rotu, treba jaje dobra paru razoŭ prapałaskać vadoju.

Kali kuski stravy nadta mocna trymajucca pamiž zubami, dyk treba ich vykałupać. Nikoli nie karystacca dziela hetaje mety pradmietam z metalu, a tolki dzieravianymi pałačkami, dobra abstruha nymi.

Čyścić zuby treba zaŭsiody na nač i ranicaju. Asabliva heta važna na nač, inakš strava, jakaja astaniecca pamiž zubami, miecimie dobryja umovy dla kisłacieńnia, a na't i hnićcia.

Ludzi majuć nie adkolkavaje zdaroŭje. Pry roŭnych umovach adnyja chutčej zachvarejuć čymsia druhija. Toje samaje z zubami. Pry dobraj ruplivaści zuby ŭsio-ž taki mohuć zachvareć. Dyk voś tutaka nia treba prapuścić dobraje pary dziela lekavańnia ŭ dentysta. Jak užo skazana, nikoli nie škada-, vacimie toj, chto chutka źvierniecca da dochtara kab zaplambavać zub. Tolki tady nia treba budzie vyryvać zuboŭ, bo lišnie papsavanaha nichto nia moža vylekavać.

## Z biełaruskaha žyćcia

**Relihijny kancert choru R. Šyrmy.** 7 h. m-ca ŭ Vilni ŭ zali b. kanservatoryi adbyŭsia pad pratektaratam Archijepiskapa Fiadosa relihijny kancert viedamaha z biełaruskich vystupleńniaŭ choru hram. R. Šyrmy. Treba skazać, što kancert relihijnych pravasłaŭnaŭschodnich pieśniaŭ u Vilni i ahułam u našym kraju heta navina. Nia hledziačy na heta kancert udaŭsia. Publicy asabliva padabalisia niekatoryja pieśni, viedamaha ukr. kampazytara Košyca, u katorych uviedzieny narodnyja motyvy. Usie pieśni byli śpiavanyja pasłaviansku.—Na druhi raz pažadana, kab byli relihijnyja pieśni i biełaruskija.

**Sud nad redaktaram „Šlachu Moładzi".** 8.IV siol. u Vilensk. Haradzkim Sudzie była razhladana sprava redaktara „Šlachu Moładzi" hram. J. Najdziuka, abvinavačanaha ŭ suviazi z kanfiskataj № 12 „Šlachu Moładzi" ŭ 1937 h. Sud prysudziŭ red. J. N. karu ŭ sumie 30 zł. Zasudžany padaje apelacyju.

**Zasudzili b. redaktara „Biel. Krynicy".** 19.IV sioleta Vilenski Akružny Sud razhladaŭ spravu kanfiskaty apošniaha numaru „Biel. Krynicy", z min. hodu, za artykuł „Siła Ideału". U vyniku redaktara Ad. Dasiukievіča Sud zasudziŭ na 6 miesiacaŭ i karu strymaŭ na dva hady, a vydaŭca Alf. Šutoviča apraŭdaŭ. Baraniŭ adv. B. Alachnovič, jaki tak-ža ad imia red. A. D. padaje ad prysudu apelacyju.

**Apraŭdańnie.** U 1936 h. padčas biełaruskaj školnaj akcyi była vydana adnadnioŭka „Za rodnuju škołu", jakuju administracyjnyja ŭłady skanfiskavali. Vil. Akr. Sud, jaki niadaŭna hetu spravu razhladaŭ, redaktara i vydaŭca henaj adnadnioŭki J. Šutoviča apraŭdaŭ.

**Spynili dziejnaść „Žviazu".** 16.IV.38 administracyjnyja ŭłady spynili dziejnaść „Biełaruskaha Haspadarskaha Žviazu" ŭ Vilni — apošniaj biełaruskaj kulturna-aśvietnaj arhanizacyi.

**„Zołak".** Hram. A. Aniśko ŭ m-cy sakaviku sioleta chacieŭ uznavić vydaviectva časapisu „Zołak" i ŭ hetaj spravie padaŭ adpaviednuju zajavu ŭ Vilenskaje Starastva. Na zajavu hetu pryjšoŭ adkaz, jaki zabaraniaje dalej vydavać hram. A. Aniśku čas. „Zołak", bo ŭ mižčasie byccam chtoś inšy padaŭ zajavu, što budzie vydavać časapis pad hetkim-ža nazovam. „Zołak", jak viedajem, vyjaŭlaŭ ideolohiju biełaruskich sacyjalistaŭ revalucyjaneraŭ, spatkaŭ-ža jaho los taki samy, jak i nastupnicaŭ „B. Krynicy".

## Chto pazačyniaŭ „hurtki"?

„Hurtki" — miascovyja addziely roznych biełaruskich palityčnych, hramadzkich i kulturnych arhanizacyjaŭ, i ich historyja ŭ miežach Polskaje Respubliki čakajuć jašče na systematyčnaje apracavańnie. Budzie heta ŭ biełaruskim ruchu chiba celaja epocha. Da času adnak, pakul heta staniecca, cikava i karysna natavać na piśmie ŭsio, što da historyi hurtkoŭ adnosicca. Adzin taki fakt padaŭ anahdaj polski abšarnik hraf Balesłaŭ Skirmunt z Šemietaŭščyny, Śviancianskaha pav. U artykule „Moje wspomnienia o Wielkim Marszałku" hraf. B. Skirmunt miž inšym uspaminaje ab aŭdyjencyi ŭ Maršała Piłsudskaha hrupy abšarnikaŭ Śviancianskaha pavietu. Było heta ŭ Vilni, u pamieškańni hr. Tyškieviča pry Trockaj vul. 14, u try dni paśla zaniaćcia miesta palakami viasnoj 1919 h. Ab hetaj aŭdyjencyi i ab tym, što pa joj nastupiła, B. Skirmunt piša miž inš. dasłoŭna hetak:*)

„...Vielmi miłaja i sardečnaja hutarka ab usim tryvała kala paŭhadziny.

Pad kaniec aŭdyjencyi skazaŭ ja: Panie Maršałku, my jak žychary rodnaha Vam pavietu, prosimo abarony ŭ razie patreby. Maršał sardečna heta paćvierdziŭ i my vyjšli z najlepšym uražańniem hetaj aŭdyjencyi. Minuła kolki hadoŭ, „hurtki" strašna raźvilisia i dziejali na zhubu kraju. Bačučy, što dziejecca i pračuvajučy zhubu, jakaja kryjecca pad płaščom hurtkoŭ, napisaŭ ja Maršałku ŭpisnoje („polecone") piśmo, apisvajučy dziejnaść hurtkoŭ i zakončyŭ bolš-mienš hetymi słavami:

„Panie Maršałku! Na pryvatnaj našaj aŭdyjencyi, na prośbu našu ab pomač i abaronu ŭ razie patreby, abiacali Vy nam zrabić heta. Voś-ža Pan Maršał maje spasobnaść vykanać abiacanaje, prosimo ab heta jak najharačej, bo hurtki pahražajuć kraju zhubaj — prašu vykanać abiacanaje!

Praz niejki čas usie hurtki byli začynienyja i razahnanyja. Maršał datrymaŭ słova".

Hetulki ab likvidacyi *hurtkoŭ* napisaŭ hraf B. Skirmunt.

A.

*) „Słowo" Nr. 99, 10.IV.1938.



Ф. ШАЛЯПІН
слаўны расейскі сьпявак (бас) і вялікі артыст памёр 12-га красавіка сёлета ў Парыжы, дзе быў на эміграцыі, пасьля рэвалюцыі (1917 г.).

## Украінцы
### шануюць памяць сваіх вялікіх людзей

Сёлета мінула 25-ць год ад сьмерці вялікае украінскае паэткі Лэсі Украінкі. З гэтае прычыны ў чэсьць Л.У. украінскае грамадзянства ладзіць урачыстыя вечары і акадэміі. Асабліва аднак шануюць памяць Украінцы свайго найвялікшага паэта Тараса Шэвчэнкі. У чэсьць яго ў месяцы сакавіку (у гэтым месяцы ён радзіўся і памёр), дзе толькі ёсьць Украінцы, адбываюцца кожнага году адпаведныя ўрачыстасьці. Бываюць такія ўрачыстасьці і ў Вільні, якія ладзяць украінскія студэнты, каторыя вучацца ў Віленскім Унівэрсытэце.

Сёлета Украінскі Студэнцкі Саюз у Вільні так-жа памятаваў аб сваім Вялікім Песьняру Т. Шэвчэнку і ў чэсьць яго 13.III у унівэрсытэцкай залі Сьнядэцкіх ладзіў Канцэрт, у часе якога выступаў украінскі студэнцкі хор і сьпявачка З. Бантле. Прыгожую прамову аб творчасьці Шэвчэнкі сказаў студ. Дэцык. Былі так жа дэкламацыі.

Глыбокая пашана і вялікая памяць украінскіх студэнтаў аб сваіх вялікіх людзях можа быць прыкладам для беларускае моладзі, як трэба шанаваць памяць сваіх беларускіх пісьменьнікаў, паэтаў, дзеячоў і ўсіх заслужаных перад Беларускім Народам людзей.

Чан.

# ШТО ЧУВАЦЬ

— Санацыйнаму Абозу Нацыянальнага Аб'яднаньня(ОЗоНу) ў **Польшчы** ўсьцяж „не вязе.“ Ніяк ён ня можа аканчальна сарганізавацца і здабыць шырокага падтрыманьня ў народных масах. Нават тое, што ўжо, здаецца, было сарганізаванае— развальваецца. Прыкладам гэтага ёсьць заява ўраду Саюзу Маладой Польшчы, на чале з яго кіраўніком Юрым Руткоўскім. Заява гэта апублікаваная 20 г. м., гавора, што Саюз Мал. Польшчы, створаны першым павадыром ОЗоНу палк. Коцам, выступае з гэтага-ж ОЗоНу (Абозу Нацыянальнага Аб'яднаньня). Адначасна паявілася і заява цяперашняга старшыні ОЗН ген. Скварчынскага аб тым, што Руткоўскага і яго ных таварышаў выкінулі з Саюзу Маладой Польшчы за тое, што праца іхняя была нязгодная з агульным кірункам ОЗН. Руткоўскі і іншыя, як ведама, былі раней эндэкамі, у ОЗоНе-ж быццам цяпер бяруць верх г. зв. „Направячы“ — левыя пілсудчыкі. — 12 г. м. Варшаўскі Акр. Суд засудзіў на 3 гады вастрогу др. Цывінскага за зьнявагу памяці Марш. Я. Пілсудзкага ў „Дзеньніку Віленскім.“

— Назначанае Гітлерам галасаваньне ў б. **Аўстрыі**, як і трэба было спадзявацца, пацьвердзіла вялізарнай большасьцю галасоў далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны. Ня гледзячы на такі вынік галасаваньня, далучэньне Аўстрыі да Нямеччыны прычынілася да астуджэньня **італіянска-нямецкіх адносінаў**. Справа ў тым, што Мусcоліні пабайваецца магутнасьці Нямеччыны, якая цяпер сталася яго ным суседам. І гэта, а таксама цяжкае ўнутранае палажэньне Італіі давяло ў даволі кароткім часе 16 г. м. да падпісаньня між **Італіяй і Англіяй** дагавору, у якім узгоднены англійскія і італьянскія пагляды на справу Абісыніі, Палестыны, Міжземнага Мора, Суэзскага Каналу, Гішпаніі і іншых справаў, у якіх мяшаюцца інтарэсы гандлёвыя і ваенныя гэтых гаспадарстваў. Пасьля падпісаньня дагавору Італія мае перад усім перастаць мяшацца ў справу Палестыны, а Англія прызнае Абісынію за італіянскую калёнію.

— 8.IV сёл. **Францыя** перажыла новую зьмену ўраду. Сацыялістычны ўрад Блюма, пасьля няўдачы ў Сэнаце, прымушаны быў падацца ў адстаўку. Новы ўрад стварыў радыкал Далядіе — дасюлешні міністр вайны. Урад Далядіе перад усім зьлiквідаваў забастоўкі ў фабрыках, якія прычыняліся да аслабленьня гаспадарства. Далей-жа кладзе ён вялікі націск на ўзбраеньне, упарадкаваньне пякучых эканамічных пытаньняў і ўжо распачаў перагаворы з **Італіяй** дзеля наладжаньня добрых адносінаў, каторыя апошнім часам даволі папсаваліся. З француска-італіянскіх гутарак перад усім задаволена **Англія**, няпрыхільна-ж на іх глядзіць **Нямеччына**.

— У **Румыніі** кароль пры помачы патрыярха Мірона паступова ўводзіць у жыцьцё сваю дыктатуру. Вядзе ён змаганьне ня толькі з дэмакратычнымі партыямі, але і з правіцова-фашыстаўскімі, якія быццам прыгатаўлялі ў Румыніі пераварот.

— У **СССР** на днях быццам выкрыта новая нелегальная арганізацыя, на чале якое стаялі 7 генэралаў. Арганізацыя гэта 1 га мая мелася быццам забіць Сталіна і Варашылава і пасьля зьмяніць савецкі лад. Цікава адначасна адзначыць, што Рада Народных Камісараў СССР пастанавіла быццам забараніць праводзіць далейшую чыстку ў „калгасах,“ бо давяла яна да нябывала варожых антыкамуністычных настрояў сярод сялянства. Цяпер з „калгасу“ можа выкінуць пастанова агульнага сходу пры прысутнасьці 2/3 агулу сяброў „калгасу.“ Надовячы ў адным з беларускіх савецкіх гарнізонаў выбух бунт чырвонай арміі, на ўспукаеньне якога было паклікана войска з цэнтру СССР.

— Паўстанцы ў **Гішпаніі** з кожным днём забіраюць штораз большыя абшары, не зважаючы на вялікія натугі ўрадаўцаў стрымаць гэтыя наступы. Цяпер найбольшыя змаганьні адбываюцца ў Каталёніі, бо каля Мадрыту ўрадаўцы ўсё-ж не паддаюцца.

— **Кітайцы** што-раз часьцей перамагаюць **Японцаў**, адбіраючы ў іх свае землі. Такім чынам палажэньне Японіі пагоршваецца. Ужо ў Кітаі згінула быццам 280.000 японцаў. Пры тым паўстаюць часта непаразуменьні на японска-савецкай граніцы. З гэтых-жа непаразуменьняў можа паўстаць новая вялікая вайна. *jп.*

# У Абісыніі далей кіпіць

Два гады ўжо мінаюць, як Італьянцы сілай „занялі“ Абісынію і дамагаюцца ад усяго сьвету, каб прызнаў за імі на гэты край „права ўласнасьці.“ Некаторыя краіны, на чале з Нямеччынай, даўно ўжо гэта зрабілі, іншыя — прыбіраюцца. А тымчасам — самі абісынцы, любячыя сваю свабоду, далей гэту свабоду пагеройску бароняць. Гэтай справай спэцыяльна зацікавіліся англіцкія паслы ў сваім парляманце, якія расказалі анагдай сапраўды цікавыя рэчы. З гэтых гутарак і з галасоў англіцкай прэсы („Manchester Guardian“) між інш. выясьнілася, што Італьянцы ў Абісыніі зусім не зьяўляюцца такімі бясьпечнымі панамі, як гэта яны стараюцца ўсім угаварыць.

Да сягоньня ёсьць яшчэ цэлыя правінцыі, нават у цэнтры краіны, дзе фактычнымі гаспадарамі палажэньня зьяўляюцца не Італьянцы, але іменна Абісынцы. Італьянцы-ж трымаюцца бесьпячней толькі ў такіх мясцох, дзе стаяць іхнія ваенныя гарнізоны. І то ня ўсюды, а самыя гарнізоны і то ў такіх мясцох, як Аксум, Адуа, Аббі-Аддо, Адіграт і Макальле —таксама ад сябе адцятыя. Харчы і амуніцыя гэтым гарнізонам дастаўляюцца на аэрапланах, бо ўся правінцыя (ваколіца) знаходзіцца ў руках абісынскіх паўстанцаў. У правінцыі Амгара італьянскія гарнізоны стаяць толькі ў двух мясцох — уся рэшта правінцыі ў руках Абісынцаў. Падобна стаіць справа ў правінцыі Ульлега, а з правінцыі Годжам італьянцы былі змушаны зусім выйсьці.

Ня пэўна сядзяць італьянцы нават у цэнтральнай Абісыніі — сталіца Аддіс-Абэба, Анкобэр, чыгунка ў Джібутті — дзе такжа часта нападаюць аддзелы партызанцкія. Абісынцы пануюць у паўдзённых пяцёх правінцыях: Джімма, Сідано, Борама, Багі і Віамо, дзе ёсьць толькі па аднаму гарнізону, а ў правінцыі Данакі і Ассуа няма італьянцаў зусім. Ня лепш дзеецца і ў вялізарнай правінцыі Гаррар, дзе італьянцы трымаюцца толькі пры чыгунцы і ў гарадох Гаррар і Джіджіга.

Гэтак цэняць храбрыя Абісынцы сваю вольнасьць і гэтак яе бароняць. **В. В.**

## З КРАЮ

### Balučaja sprava niedachodžańnia biełaruskich časapisaŭ da ruk ichnich padpiščykaŭ

Adnej z najbolš prykrych i tarmoziačych raźvićcio biełaruskaje presy pryčyn źjaŭlajucca narakańni padpiščykaŭ na nieakuratnaje dachodžańnie da ich biełaruskich časapisaŭ. Asabliva mnoha skarhaŭ było ŭ kancy 1937 h. i na pačatku 1938 h. Paśla krychu było spakojna, ale voś apošnimi dniami lik reklamacyjaŭ iznoŭ pavialičyŭsia. Pryčyny hetych nienarmalnych źjavaŭ ciažka znajści. Administracyja naša starajecca i vysyłaje časapis kožnamu padpiščyku jak najakuratniej, apłaciŭšy naležnuju paštovuju płatu. Kali-ž prychodzie ad kaho reklamacyja (panoŭnaje damahańnie), što časapis nie dachodzić, zaraz-ža padajecca skarha ŭ Hazetny Addzieł Paštovaha ŭradu ŭ Vilni, abo ŭ Dyrekcyju Poštaŭ. Takija skarhi miž inšym byli padany na nastupnyja paštovyja ŭrady: Kvasaŭka, Indura, Žydomla, Kazłoŭščyna kala Słonima, Stoŭpcy, Małuju Bierastavicu, Hałynku kala Vaŭkavyska, Niahnievičy, Bytań nad Ščaraj, Višnieva kala Bahdanava, Bielicu, Pačapava, Vereneva, Radaškavičy, Pružana i inš. Ciapier-ža padajom skarhu na pošty ŭ: Kosavie, Stoŭpcach Suchopali, Rajcy i Navahradku.

Dyrekcyja Poštaŭ na skarhi adkazała, što ŭ spravie zahinutych ekzemplaroŭ „Šlachu Moładzi" było praviedziena śledztva i što dalej tym asobam, jakija padavali reklamacyi, časapis dachodzić akuratna. I faktyčna, z niekatorych miascoŭ jość paviedamleńni, što byli dopyty, i što ŭžo časapis dachodzić. Dumajem, što mnoha miašała ŭ hetym lišniaja „dbajłaść" niekatorych „patryjotaŭ"...

Što adnak rabić, kab časapisy nia hinuli?—Voś-ža pierad usim treba:

1. Staracca zabirać z pošty časapis samomu i ŭ hetaj spravie možna na pošcie zrabić zaściarohu, kab inšym asobam časapisu nie vydavała, abo dobra, kali chto maje na pošcie svaju paštovuju skrynku.
2. Staracca, kab poštu ŭ hminie raznosili nia sołtysy, a adpaviednyja paštary.
3. Vypisvajučy časapis vyrazna i dakładna padavać svoj adrys, kab nia było putanicy.
4. Akuratna apłačvać za časapis, padpisku i nie zmušać redakcyju, z pryčyny nieakuratnaje apłaty padpiski, rabić pieraryvy ŭ vysyłcy.
5. Kali-ž adrys padany dakładna, na pošcie damahajeciesia naležnaha Vam časapisu, i kali jaho niama, dyk treba padać reklamacyju, h. zn. napisać i vysłać kartku na adrys redakcyi takoha źmiestu: *„Nie atrymaŭ № . . . „Šlachu Moładzi"*. I padać svoj dakładny adrys. Kartku takuju pošta pierasyłaje biaspłatna, biez paštovych značkoŭ, ale dziela hetaha na kartcy treba napisać: *„Reklamacja gazetowa"*. Atrymaŭšy takuju reklamacyju, redakcyja i administracyja buduć rabić usio, kab časapis dachodziŭ akuratna.

Vypisvajučy i damahajučysia svajho časapisu nia treba słuchać nijakich „našeptaŭ". „Šlach Moładzi", a taksama i inšyja biełaruskija časapisy, jakija vychodziać u Vilni, źjaŭlajucca časapisami lehalnymi i nichto nia maje prava zabaraniać ich vypisvać, abo zatrymlivać i nie daručać! Čym bolš budziem stojkimi ŭ abaronie hetych časapisaŭ, tym bolš buduć z nami ličycca i tym akuratniej buduć časapisy dachodzić da kožnaha padpiščyka. *Redakcyja.*

## Da viedama biel. studentau

*Biełaruski Studencki Sajuz časova mieścicca: Vilnia, Zavalnaja vul. 1—2. Hadziny pryjma: ad 9 da 16.*

**Žaleza ŭ Nalibakach.** U min. hodzie ŭ našym kraju kala Nalibakaŭ znajšli žaleznuju rudu. Sioleta jeździla tudy specyjalnaja kamisija, jakaja daśledžvała mahčymaści eksploatacyi (dabyvańnia i pierapłaŭlańnia) hetaj rudy na žaleza. Kamisija śćvierdziła, što ruda ŭ Nalibakach maje ŭ sabie ad 30 da 40 prac. čystaha žaleza. U adnym-ža tolki miescy naličyła ŭsiaje rudy da 40,000 tonaŭ.

**34,534,000 žycharoŭ u Polščy** naličaje na 1.I.1938 h. Hałoŭnaje Polskaje Statystyčnaje Biuro.

**Ziemlatrasieńnie ŭ Turcyi.** 19 i 20 h. m-ca Turcyju naviedała strašnaje ziemlatrasieńnie, u časie jakoha źhinuła kala 1.000 asob. Pry čym 18 viosak zusim źnikła z ziamli. Mnoha budynkaŭ razvaliłasia i ahułam straty matarjalnyja vielmi vialikija.

**Cikavaja aperacyja.** U Paryžy trom maładym lekaram udałosia sšyć prabitaje kuchonnym nažom serca. Aperacyja ŭdałasia i paśla transfuzii (pieralivu) kryvi i inšych lekaŭ ranieny vyzdaravieŭ.

## *Паштовая скрынка*

А. Мілюцю: Вітаем! Прысланыя вершы ў меру магчымасьці будзем выкарыстываць, папраўляючы тое, што ня можа прайсьці праз цэнзуру. За грошы дзякуем.

Я. Брылю: Атрымалі, дзякуем, будзем карыстаць. Просім прысылаць і апавяданьні, а таксама і п'есу, — будзем старацца выдаць, толькі ня можам дакладна азначыць часу, бо вяжуць нас матар'яльныя магчымасьці. Прывітаньне!

Kunašaninu. Prozy, apaviadańniaŭ i navelaŭ, jakraz nam nie chapaje i dziela taho achvotna budziem razhladać Vašy i toje što možna budziem drukavać. Paet G. bieznadziejny, jon užo stary i jahonyja vieršy vielmi-ž prymityŭnyja. Dobra adnak što źviartajecie na hetyja rečy uvahu.

У. Х. Радзім больш чытаць бел. кніжак, вершы пісаць кароткія, просьценькія, бо гэтыя што атрымалі слабыя і да друку не падходзяць.

Я. Нарцызу: Адзін верш, як бачыце, друкуем, рэшта слабыя. Больш працуйце над сабой.

А. Гацуры: Верш „Вясна ідзе" папраўіўшы надрукуем.

Бондарчыку і Малодшаму: Карэспандэнцыі выкарыстаем. Просім пісаць часьцей.

A. Papłaŭskamu: Za pryvitańni i pažadańni ščyraja padziaka. Z viestak skarystajem.

Dr. J. M. Matarjały atrymali, ale nažal ab hetym my ŭžo pisali, dyk dziela taho, kab nie paŭtaracca nia zmožam nadrukavać. Pryvitańnie!

М. Каз. Атрымалі, дзякуем. Падзялілі згодна з Вашай воляй.

Я. Самойле, Я. Гарустовічу, К. Тойле і А. Ясевічу: „Шл. Моладзі" высылаецца акуратна, дамагайцеся на пошце.

*„Шлях Моладзі" рэдагуе Рэдакцыйная Калегія. Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я. Найдзюка і А. Шутовіча.*

**Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вуліца № 1—2 (Wilno, Zawalna 1—2).**

„ШЛЯХ МОЛАДЗІ" выходзіць два разы ў месяц: 5 і 25. Падпіска на год 2 зл. і 50 гр., на паўгода 1 зл. 50 гр., на 3 мес.—75 гр. Цана аднаго экзэмпляра 15 грошаў. — Заграніцу ўдвая даражэй. — Нумар картатэкі „przekazu rozrachunkowego" 59.

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар: Я. НАЙДЗЮК.